# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 30 (240) 30 ліпеня — 5 жніўня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


**ФЕСТЫВАЛЬНЫ СПЕЦВЫПУСК**

## "МЁД", "ТРУСКАЎКІ" І "РЭДЗЬКА" СЛАВУТАГА КІРМАША

**З цэнтральных вуліц Віцебска літаральна пасля развітальнага феерверка зніклі прыгожыя фірменныя сметніцы, прэзентаваныя гораду спонсарамі. Мусіць, руплівыя гаспадары прыбралі іх, каб захаваць да наступнага форуму, калі ён... Ну вось і першае сумненне. Адбудзецца ці не адбудзецца? Але навошта нам гадаць па рамонкавых пялёстках, калі Уладар фэсту ўсё ж наш родны Васілёк? Ды толькі пад пытаннем сёння ягоная ўмоўная "канвертуемасць". Так што праблемы, якія сканцэнтраваліся і завіслі над "базарам", мы паспрабавалі раскласці па "кошыках". І не для таго, каб, пагаварыўшы, схаваць іх на год. Вядома ж, калі мы хочам стаць разумнымі гаспадарамі на сваёй дзялянцы...**

*Чаму Зіновій Марголін вывеў на сцэну амфітэатра трактар "Беларусь"; а Мікалай Пінігін марыць пра помнік Мулявіну пры яго жыцці?*

**стар.7.**

*За што баліць душа мастака Уладзіміра Вальнова?..*

*І чаму Іосіфу Кабзону не спадабаўся "СБ"?*

**стар. 6,8.**

*Да "залатога кальца" Віцебска далёка. Але ці будзе яно такім без рэпінскага дома ў Здраўнёве?*

**стар.2.**

*З фестывальнага рога надта ж усяго многа ...*

**стар. 8.**

*Як ні круці: рынак вакол базару, або базар вакол рынку, усё адно — грошы! Аднак, што атрымліваецца, калі "фінансы спяваюць рамансы"*

**стар. 3.**

*Чаму Вахтанг Кікабідзе сумняваецца, што "залатыя яйкі" фэсту прынясуць спевакам-дэбютантам "зорную" славу? Што за "ноткі", на думку ўкраінца Васіля Зінчанкі, ідуць у дысананс з гарманічнай "партытурай" энергетычнага біяполя Беларусі?*

**стар. 4—5.**



# АМАЛЬ АФІЦЫЙНА...



Музей-сядзіба да пажару...

*Наш штотыднёвік ужо пісаў аб тым, што 1 лютага 1995 года ў музеі-маёнтку І.Я.Рэпіна, што ў Здраўнёве, адбыўся пажар, у выніку якога моцна пашкоджаны другі паверх і флігель маёнтка.*

*Падчас "Славянскага базару" наша група наведала Здраўнёва — адну з найпрыгажэйшых мясцін Беларусі — і на свае вочы пабачыла тое, што засталося ад знакамітай сядзібы вялікага славянскага мастака, які стварыў тут "Дуэль", "Восеньскі букет", "Беларуса", "Яблыні квітнеюць", "У полі", "Месячную ноч"...*

*Кіруючыся высакароднымі памкненнямі, але адначасова цвяроза разумеючы, што ў наш складаны час мясцовыя ўлады і віцебскія мецэнаты не ў стане аднавіць былое аблічча гістарычнай сядзібы, газета "Культура" з'явілася ініцыятарам Звароту да прэзідэнтаў трох славянскіх дзяржаў і грамадскасці. Спадзяемся, што настане час, калі знакамітае Здраўнёва будзе адноўлена.*

## Зварот да прэзідэнтаў Расіі, Беларусі, Украіны — Барыса Ельцына, Аляксандра Лукашэнкі, Леаніда Кучмы, а таксама да грамадскасці славянскіх дзяржаў

Мы, акрэдытаваныя на "Славянскім базары" журналісты, мастакі, музыканты, акцёры, рэжысёры, звяртаемся да ўсіх, каму дарагая культура славянскіх дзяржаваў — Беларусі, Расіі, Украіны. Размова ідзе пра лёс Дома-сядзібы вялікага мастака Іллі Рэпіна. Народжаны на Украіне, Рэпін прынёс сусветную славу не толькі Расіі, але і Беларусі, дзе ў мястэчку Здраўнёва, каля Віцебска, што на прыгожым беразе Заходняй Дзвіны, з 1892 па 1900 гады ён жыў і ствараў. Больш за 40 вядомых палотнаў Ілля Яфімавіч напісаў тут, на беларускай зямлі.

Музей-сядзіба пачынала ўжо паўнавартасна працаваць, але 1 лютага 1995 ў Здраўнёве здарыўся пажар, у выніку якога частка рэпінскага дома згарэла. Мы разумеем усю складанасць эканамічнай сітуацыі, у якой апынуліся нашыя краіны сёння, але існуюць вечныя каштоўнасці, якія належаць усяму чалавецтву. Сярод іх — і спадчына вялікага мастака. Таму лічым: кожны павінен зрабіць свой пасільны ўнёсак у аднаўленне музея-сядзібы "Здраўнёва", аднаўленне справядлівасці. Як немагчыма падзяліць нашыя народы, гэтаксама немагчыма разарваць нашае мастацтва. І лёс вялікага Рэпіна — прыклад таму.

**Тамара Абакумоўская — газета "Рэспубліка", Святлана Акружная — народная артыстка Беларусі, Святаслаў Бэлза —заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, Віктар Вуячыч — народны артыст Беларусі, Лола Званарова — пісьменніца, Васіль Зінкевіч — народны артыст Украіны, Іосіф Кабзон — народны артыст СССР, Эмі-Мары Красноўская — рэжысёр "Тэлебачання Расіі", Яўген Мацвееў — народны артыст СССР, Уладзімір Мулявін — народны артыст СССР, народны артыст Беларусі, Зміцер Падбярэзскі — часопіс "Мастацтва", Наталля Пятрова — дырэкцыя фестывалю "Славянскі базар", Васіль Раінчык — народны артыст Беларусі, Анатоль Рыбчынскі — заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны, Канстанцін Севярынец — Беларускае радыё, Ларыса Цімошык — газета "Звязда", Эдуард Ханок — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, Вольга Улевіч — газета "Имя", Павел Якубовіч — газета "Советская Белоруссия" і іншыя.**



...Пасля пажару



**Украінскі мастак Уладзімір Кіркевіч у Мастацкім музеі паказаў сваю выставу акварэляў "Па рэпінскіх мясцінах на Украіне".** Увесь прыбытак ад яе продажу, згодна з жаданнем аўтара, пойдзе на аднаўленне дачы-сядзібы І.Рэпіна ў Здраўнёве, якая згарэла летась. Сам мастак нарадзіўся ў Пінску, але зараз жыве ў Феадосіі. Вялікі прыхільнік мастацтва Іллі Рэпіна, Уладзімір Міхайлавіч аб'ездзіў амаль усе месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю аўтара "Бурлакоў на Волзе". Свае чыстыя, выразныя і гарманічныя па колеры і настрою акварэлі мастак пісаў у Чугуеве і Маскве, Пецярбургу і Рэпіна, на Віцебшчыне, справядліва мяркуючы, што Рэпін належыць не толькі славянскім народам — рускім, украінцам і беларусам, але і ўсёй сусветнай культуры. Таму, перадаючы Віцебску трыццаць сваіх акварэляў, ён верыць, што "Здраўнёва" будзе адноўлена дзякуючы ахвяраванням, працы і ўвазе ўсіх, каму дарагія творчасць Іллі Яфімавіча Рэпіна і памяць пра яго.



Здаецца, міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, аглядаючы новую экспазіцыю Віцебскага краязнаўчага музея, быў задаволены. Так што не толькі канцэрты могуць стварыць добры настрой...

**Ля будынка абласной бібліятэкі імя Леніна 14 ліпеня, падчас свята горада Віцебска, быў урачыста адкрыты помнік выдатнай беларускай паэтцы Еўдакіі Лось (аўтары — скульптар Валеры Магучы, архітэктары Валерый Рыбакоў і Ігар Лапуноў).** Перад шматлікімі гледачамі, сярод якіх былі кіраўнікі горада, літаратары, мастакі, журналісты, акцёры, а таксама сёстры паэткі, з'явіўся велічна-задумлівы вобраз жанчыны, якая ўсё сваё жыццё прысвяціла свайму народу.

І сведчаннем гэтаму словы з яе верша, выбітыя на камяні-пастаменце помніка: "Я з табою, несмяротны мой народзе!.."

У той жа дзень у цэнтры горада, на вуліцы Талстога, адкрыліся мемарыяльныя дошкі ў гонар выдатных віцебскіх краязнаўцаў М.Нікіфарава і В.Краснянскага.

# "ПАЎНОЧНУЮ СТАЛІЦУ" БУДУЕМ РАЗАМ?



*Мэр Віцебска Міхаіл Грыгор'еў:*

**— Мы назіралі за Вамі доўга. Вы так сёння цудоўна смяяліся, так радаваліся, што, далібог, развесялілі і нас...**

— Дык дзень нараджэння ж! І не такія мы ўжо і старыя: толькі 1022-я гадавіна Віцебска. Дарэчы, гэта пяты дзень народзінаў горада, які віцябляне святкуюць разам з зоркамі "Славянскага базару". Вось вам і першая адметнасць. Другая — фестываль узяты пад патранаж прэзідэнта дзяржавы. Гэта было заяўлена Аляксандрам Лукашэнкам на IV фестывалі, а цяпер ужо спонсарская дапамога пачала набываць дзяржаўны характар. Да ініцыятывы нашага прэзідэнта далучыліся і Барыс Ельцын і Леанід Кучма. Безумоўна, гэта ўжо не спонсарства: для правядзення фестывалю з бюджэтных фондаў усе тры краіны пералічылі неабходную суму грошай...

**— Горад, як кажуць, "пачысціў пёркі". І гэта зразумела: гасцей прымаюць, аддаючы самае лепшае. А вось за чый кошт "аўрал на караблі"?**

— У прынцыпе, за грошы горада, але ў пэўных момантах нам дапамагаў прэзідэнт...

**— Карпарацыі "Славянскі базар"?..**

— Не, нашай дзяржавы. А вось з карпарацыяй ніякіх фінансавых стасункаў мы не маем. Арганізатары аддаюць нам праграму, па якой горад працуе і забяспечвае разнастайныя мерапрыемствы... Урэшце скажу так: ёсць пэўныя долі, напрыклад, Украіны, Расіі, Беларусі. Яны роўныя, і ўносяцца на фестываль як заснавальніцкі ўзнос. Пры тым улічваюцца і амартызацыя будынкаў, і асноўныя фонды і г.д. Такім чынам, працэнтаў на сорак, відаць, выдаткі на фестываль з боку Беларусі меншыя, чым іншых краін-удзельніц.

**— Усё роўна, грошы дзяржаўныя. Ну а камерсанты?..**

— Што нам дае само правядзенне "Славянскага базару" з чыста эканамічнага пункту гледжання? Вы ж пра гэта пытаецеся? Дык вось, нам даюцца адлічэнні ад гандлю, што ідзе ў бюджэт горада, нам даюцца адлічэнні ад сістэмы грамадскага харчавання, гасцінічнага фонду, ад транспарту. Усё гэта сумуецца і трапляе ў гарадскую казну. Але такога яўнага выйгрышу ад правядзення фэсту, умоўна кажучы, у тры...чатыры...пяць мільярдаў, — такога няма. Я разумею: адзін бок фестывалю — гэта яднанне народаў, гэта — мастацтва, гэта — прапаганда нашых славянскіх ідэй; а вось другі бок — фінансавы. І ён няпросты. У кароткім інтэрв'ю на пальцах, як кажуць, усяго не растлумачыш. Ва ўсякім разе, горад не ў пройгрышы...

**— Я разумею, што кошт маральнага, эстэтычнага "допінгу" для віцяблян падлічыць, мусіць, немагчыма...**

— Безумоўна, свята стымулюе горад да інтэнсіўнай працы па яго добраўпарадкаванні, інжынерным забеспячэнні, у прыватнасці, пракладцы труб, асфальтаванні вуліц. Работа гэтая доўжылася на працягу трох месяцаў — красавіка, мая, чэрвеня. А так, у прынцыпе, рыхтаваліся да фестывалю амаль год. Вось і цяпер, як толькі Пяты юбілейны скончыцца, адразу ж пойдзе напрацоўка на Шосты па ліку "Славянскі базар". Толькі з боку здаецца, што ўсё лёгка і проста. А на самой справе — гэта вялізнейшае, складанейшае мерапрыемства.

**— Ну, а цяпер жа Вы можаце ўздыхнуць з палёгкай, расслабіцца?**

— Калі ўсё праходзіць прыгожа і гладка, значыць, механізм адладжаны. Для мяне, як кіраўніка горада, галоўнае было мабілізаваць уся і ўсё. І бачу цяпер — нармальна! Можна крыху расслабіцца...

**— Пры ўсіх праблемах і нястачах мы жадаем Віцебску стаць хутчэй "маленькім Парыжам"...**

— Горад перажывае другое па ліку сваё адраджэнне. Першае было на пачатку 20-х гадоў, і не памылюся, калі скажу, што яго бацькам быў Марк Шагал, ну і вядома — Пэн, Малевіч, Лісіцкі... Калі цяпер Віцебск журналісты называюць паўночнай сталіцай культуры, я не супраціўляюся... І яшчэ. Я падлавіў адну асаблівасць: неяк ішоў, глядзеў, было гэта гадзіны ў дзве-тры ночы... тысячы людзей на вуліцах, транспарту няма. І нейкае пачуццё гонару ахінула за тое, што на сем-восем дзён Віцебск ператвараецца ў курортны горад. А значыць, людзі і сапраўды паўнацэнна адпачываюць... Прабачце, спазняюся на канцэрт...

«К» і

**ЛАЎРЭАТЫ КОНКУРСУ МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ ПАПУЛЯРНАЙ ПЕСНІ:**

*Гран-пры*
Руслана (Украіна)

*Першая прэмія*
Азкайя Хакан (Турцыя)

*Другая прэмія*
Каркарашвілі Мая (Грузія)

*Трэцяя прэмія*
Анісімава Таццяна (Расія)

БЕЗ СВЕЦКІХ УМОЎНАСЦЕЙ

«К» і



Радыён Бас, віцэ-прэзідэнт Карпарацыі "Славянскі базар", прадзюсер і дырэктар Генеральнай дырэкцыі фестывалю:

**— Пастаўлена фестывальная кропка. Магутным феерверкам над Віцебскам. Вам, не сумняваюся, ёсць пра што сказаць, бо праблем, мусіць, праявілася бездань...**

— Няхай пра ўзровень "СБ" гавораць, урэшце, прэса і прафесіяналы. А вось пра яго неабходнасць і карысць, якую ён прыносіць усім без выключэння, і перш за ўсё — дзяржаве, скажу. На працягу сямі дзён у прамым эфіры была Беларусь, быў Віцебск, быў кіраўнік дзяржавы, які мог на васемнаццаць краін свету сказаць пра нацыю, якая не ваюе, а збірае музыкантаў, паэтаў, мастакоў для таго, каб не толькі абменьвацца набыткамі, але і паглядзець па-сяброўску адзін аднаму ў вочы.

**— Але каб не сорамна было глядзець... Бо падыход да форуму з боку арганізатараў павінен быў быць бездакорным...**

— І перш за ўсё — творчы. Вядома, не на працягу двух-трох тыдняў рыхтавацца, як атрымалася з канцэртам Дня Беларусі. Хто перашкаджаў рабіць яго, умоўна кажучы, на працягу года? Я не буду зараз нікому прад'яўляць прэтэнзіі, але мы пад фінансаванне фестывалю атрымалі грошы запознена, а трэба было шмат што замаўляць. Прынамсі, сцэнічнае афармленне. Дарэчы, я хачу падзякаваць фірме "Эва", якая пагадзілася нам гэта рабіць у крэдыт. А тры фірмы ўвогуле адмовіліся працаваць без папярэдняга пералічэння грошай. Мы не здолелі заплаціць своечасова гасцініцы, і з "Ветразем" у нас былі вялікія праблемы: не пасялілі нямецкую дэлегацыю, якая прыехала абслугоўваць фестываль...

**— Ці не з "Bayer Dinamic"?**

— Так, з гэтай фірмы. І нам было страшна сорамна. Але нягледзячы на ўсе ўгаворы дырэктар "Ветразя", пан Бруеў, насустрач не пайшоў, і мы былі вымушаныя перасяляць немцаў уначы ў іншую гасцініцу.

**— А як жа выходзілі з няпростага становішча?**

— Дзякуючы нашым кампаньёнам-расіянам. І Украіне, у другую чаргу. Сцэна ж будавалася, асвятленне прыехала, артысты выступалі, працавалі краны, а тэхніка, харчаванне... Гэта ж усё — грошы! І таму заявы кшталту "вось... фестываль на Беларусі... мы яго нікому не аддадзім..." — павінны падмацоўвацца не толькі словамі, але і практычнымі справамі. Адно толькі скажу: гэта — не гасцінна. Пяты юбілейны фестываль прайшоў без адзінага прыёму, без аніводнага банкету. Бо не было сродкаў. Ды ўвогуле, каб не нашкодзіць, мы ад многіх рэчаў адмовіліся, а яны б маглі дапамагчы фестывалю...

**— Што, напрыклад?**

— Не запрасілі некаторых "зорак". Адмовілі ў пэўным камфорце ўдзельнікам...

**— Радыён Міхайлавіч, і ўсё ж, як Вы растлумачыце, такое пытанне, якое не толькі лунала ў паветры, але і адназначна ставілася, як кажуць, рубам: Беларусь на фестывалі — не гаспадар!**

— Ну, а як Вы пракаменціруеце такую інфармацыю? Я зараз дам Вам афіцыйную паперу, і гэта дадзеныя непрыдуманыя, дадзеныя з камп'ютэра, бо акрэдытацыя завяршылася: 820 чалавек — з Беларусі, 400 — з Расіі і 280 з Украіны. Ну, хто тут "не гаспадары", га?

**— Прабачце, але зноў жа: арганізатары інфармавалі журналістаў у першы дзень, маўляў, катавасія з гасцініцамі з-за таго, што гасцей з Расіі прыехала ці не на 500 чалавек больш, чым чакалася...**

— Тут ідзе гаворка пра камфартабельныя гасцініцы. Віцебск, вядома, прайграе з-за таго, што адсутнічае пабудаваны па сучасных параметрах гасцінічны фонд...

# ХТО НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ ГАСПАДАР?



**— Я, вядома, разумею: госці, скажам, нечаканыя. Што зробіш — трэба іх годна прыняць. Аднак, як абышліся з "чаканымі" ў пэўных момантах? Вось, да прыкладу, тое, што бачылі непасрэдна мы, журналісты "Культуры". Нашага фотакарэспандэнта засялілі ў інтэрнат Ветэрынарнай акадэміі. Зразумела, можна было б перажыць некалькі дзён дыскамфорту кшталту незасланага ложку насупраць з зашмальцаваным, у непрыемных плямах, матрацам, з санвузлом, які даўно трэба было б выкінуць на сметнік, і г.д. Але ў суседні пакой "бокса" ўладкавалі артыстаў з рок-групы "Палац". Тут і пачалося! Дзверы ў пакойчыках —"візаві", у паўкроку адна ад адной. І ніякай карысці, што яны прычыняюцца: усё як на экране, бо дзверы зашыты не фанераваным лістом, а звычайным празрыстым шклом. Думаю, не надта прыемна студэнтам жыць як пад мікраскопам, не кажучы ўжо пра артыстаў, якім трэба і пераапранушча, і распецца, і проста выспацца. А журналіст, які ўвесь дзень і, бадай, ноч — на нагах? Дык вось пытанне: ёсць прэсцэнтр фестывалю, ёсць дырэкцыя і многія іншыя арганізацыйныя службы — ці не час будаваць сваю службовую гасцініцу?**

— Зноў жа, у горадзе ёсць гаспадары. І яны для сябе павінны вырашыць адно галоўнае пытанне. І сёлета, як ніколі ярка, гэтае пытанне праявілася: калі фестываль патрэбны гораду, дык горад павінен павярнуцца да яго тварам па ўсіх пазіцыях. Тым больш, што ёсць падтрымка прэзідэнта дзяржавы, і не толькі на арганізацыю канцэртаў. І што тут казаць: Віцебск літаральна задыхаецца. На такі вялізны горад, дзе праходзяць маштабныя мастацкія прэзентацыі, толькі 800 гасцінічных месцаў! І тое, з гэтых васьмісот трэба забракаваць ці не больш за палову, і застаецца, скажам, чатырыста месцаў, дзе можна жыць. А калі меркаваць па камфартабельнасці, дык іх наогул сотня. Вялікая трагедыя, якая можа адкінуць "СБ" назад. Але гэта не наша кампетэнцыя...

**— Не ваша? Чаму?**

— Мы — не прыватная ўстанова, а дзяржаўная, і належым да аддзела камунальнай уласнасці гарвыканкама. А на будаўніцтва гасцініцы ў нас сродкаў няма, і гэтае пытанне трэба вырашаць на ўзроўні ўрада. Для таго, каб былі нейкія інвестыцыі. Да таго ж Віцебску нестае добрых рэстаранаў, дзе можна без абмежаванняў карміць гасцей. Словам, сервіс трэба паляпшаць. На жаль, у нас няма на гэта ні сіл, ні сродкаў, ні магчымасцей, бо мы адносімся да іншай формы ўласнасці. Я ведаю толькі адно: час зрабіць для сябе выснову: фестываль — гэта немалаважная частка жыцця горада, да яго трэба рыхтавацца, а не толькі паставіць гандлёвую палатку на вуліцы і запрасіць гасцей або заасфальтаваць дарогу. Трэба думаць пра будучыню...

**— Як падалося асабіста мне, неабходна думаць пра Віцебскія пленэры, фэсты і г.д. у рэчышчы адной агульнай сацыяльна-культурнай праграмы. Ці ж не надзённая патрэба ў кантэксце яе развіцця — будаўніцтва "залатога кальца" вакол Віцебска? На гэтай зямлі дастаткова славутых мясцін. Ды што тут казаць! З падачы "Славянскага базару" нам можна выходзіць на міжнародны турызм! Вось адкуль возьмуцца грошы для горада.**

— Вы пацвярджаеце маю думку, што фестываль нясе толькі станоўчае, толькі плюсы. І той, хто разменьвае гэтую фестывальную манету, сцвярджаючы, што мы, маўляў, тут не гаспадары, мякка кажучы, памыляецца. Мы павінны быць удзячнымі той жа Украіне або Расіі, што яны са свайго неверагодна складанага бюджэту вымаюць грошы — вялікія або маленькія — і ўкладаюць іх у фестываль, які праходзіць на тэрыторыі зусім іншай дзяржавы. Мала таго, калі мы абмяркоўвалі пытанне, хто ж можа заняць пляцоўку амфітэатра з сольнай праграмай, як гэта зрабілі Алеграва, Газманаў, Кабзон, дык не знайшлося такога прозвішча на Беларусі. Не знайшлося... Не, нельга, каб пяць гадоў на адкрыцці і закрыцці было адно і тое ж. Пакуль нашы салісты мяняюцца на адкрыцці або закрыцці толькі месцамі, а ўсё астатняе — як і дзесяткі гадоў таму... Гэтым мы толькі дыскрэдытуем Беларусь. Атрымліваецца, што мы рашаем не мастацкія пытанні, а нейкія кланавыя, груба кажучы. Многія ж нашы артысты не трапілі на "СБ". Вось Ліка, напрыклад. Што, яна сапсавала б настрой публіцы? Або зусім унікальны калектыў "Палац"? Чаму "Фрыстайл" можа выступаць і тут, і там, а наш "Палац" — не? А ўзровень у нашага ансамбля значна вышэйшы! Скажу адно: у наступным годзе, і я раблю афіцыйную заяву, мы зробім усё, каб "Палац" быў прадстаўлены ў самай шырокай форме. Яго павінны ўбачыць у свеце! І так можна займацца пералікам бясконца. Але гэта не мая кампетэнцыя. Няхай адказваюць за гэта людзі, якія вызначаюць, хто лепш прадставіць Беларусь, хто горш, не выканаўшы ніводнага твора на мове дзяржавы, якую прадстаўляюць. У мяне ёсць адна дзяжурная фраза: "краіна павінна ведаць сваіх герояў", дык вось, трэба ўжо зрабіць высновы, хто робіць, а хто толькі гаворыць, што робіць. Я гатовы несці адказнасць за тое, што раблю я. Адказнасць не словамі, а дакументамі.

**— І апошняе. Шум вакол канцэрта "Беларусь запрашае"...**

— Самы неразрэкламаваны канцэрт! Мусіць, за некалькі дзён да фэсту мы даведаліся пра тое, хто ў ім будзе браць удзел. Таму мы былі вымушаныя ратаваць становішча па дзвюх пазіцыях: запрасіць на гэты канцэрт вялікую колькасць людзей па запрашальных білетах і потым адчыніць вароты перад амфітэатрам, каб віцябляне маглі свабодна прайсці туды і паслухаць. Словам, і на "Беларусь запрашае" і на "Мулявін запрашае" рэакцыя з боку гледачоў была невялікай. І не таму, што яны не любяць Мулявіна. Яго вельмі любяць і паважаюць, і вельмі чакаюць, і кожнае з'яўленне яго на сцэне выклікае авацыі і каласальны поспех, хоць калектыву ўжо больш за 25 гадоў! А незапатрабаванасць — з-за адсутнасці рэкламы. Самы "цёмны" канцэрт фестывалю ў тым сэнсе, што да апошняга моманту не ведалі, хто ў ім будзе выступаць. Але трэба сказаць, што ў канцэрце былі рэжысёрскія знаходкі дзякуючы Мікалаю Пінігіну. Мы ж яго ведаем, ён не працуе "на шармачка". Прасілі яго напрамілуй Бог, каб ён выратаваў канцэрт, і ён яго выратаваў. Калі мы будзем жывыя-здаровыя, а Пінігін і мастак Марголін вельмі зацікавіліся гэтай працай, я лічу, што яны павінны атрымаць на наступны фэст замову задоўга да яго адкрыцця, каб у іх быў час на манеўры... Ну, а калі казаць шчыра, дык ідэя арганізацыі канцэрта "Беларусь запрашае", прабачце за нясціпласць, належыць мне. І калі я выдаваў гэтую ідэю, то за мэту ставіў адзінае: каб яшчэ раз давесці, што мы тут на сваёй зямлі і мы тут гаспадары. Я хацеў убачыць у ім і маладых суперзорак нашай эстрады... А ўрэшце, калі пра гэты канцэрт так шмат гавораць, дык значыць ён зачапіў і здзейсніўся! Іншая справа, мо каму і не падабаецца камерны хор на трактарных прычэпах... Але якая розніца: хор на трактары, пад трактарам, за трактарам? Гаварыць трэба пра іншае: ЯК СПЯВАЎ хор? І навошта хору "фанера"? Мы ж змаглі б зэканоміць сродкі, зарганізаваць 50 чалавек, якія б адкрылі рот і ўключылі б фанаграму... Прыехаў бы адзін дырыжор, і гэта было б танней... Жартую, канечне. Але думка мая ў дадзеным выпадку — глядацкая. Сёння ясна адно: на Беларусі фестываль ёсць, і каб яго ўтрымаць, трэба кансалідавацца! А пакуль жа яго раздзіраюць на часткі: хто раней паспее — адзін творца ці другі, трэці або чацвёрты? А гэтага не павінна быць! Я не стамляюся гаварыць: кожны павінен займацца сваёй справай — камерны хор спяваць, дырыжор — дырыжыраваць, кампазітар пісаць, фінансіст — фінансаваць. Калі не так, дык фестываль можа ўвогуле не адбыцца або пройдзе вельмі і вельмі кепска. А гэта не той фестываль, дзе можна рабіць эксперыменты! Гэта — не бірулькі! І мы, беларусы, падкрэслю, як гаспадары, павінны да ўсіх ставіцца аднолькава добра. Асабліва да гасцей. Хто не ведае пра славуты наш менталітэт — грошай у кішэні, мусіць, на адзін дзень, самі жабракі, але ўсё роўна аддадзім апошняе. І з гэтым нічога не паробіш. Ну, вось такія мы, з вялікай Душой. І дзякуй Богу!..

**P.S.** У дзень закрыцця "Славянскага базару" ў Радыёна Баса нарадзіўся сын. Віншуем!

# "САКРЭТНАСЦЬ СВАЮ НІБЫ ЎЖО СТРАЦІЎ..."

Віктар ПАЧУЕЎ, ахоўнік прэзідэнта Міжнароднай карпарацыі "Славянскі базар":

**— Прабачце, Вы адказваеце за бяспеку самога пана Вінніказа... А з Вамі можна пагаварыць?**

— Чаму ж не? Сакрэтнасць сваю нібы ўжо страціў. Цяпер я пенсіянер Камітэта дзяржаўнай бяспекі. А ўвогуле адказваю не толькі за бяспеку. Мы з маім напарнікам замацаваны тут за прэзідэнтам Карпарацыі яшчэ і для вырашэння разнастайных, магчыма канфідэнцыяльных, даручэнняў.

**— Дык усё ж, былі эксцэсы, у якія Вам даводзілася ўмешвацца?**

— Атмасфера на фестывалі панавала добразычлівая, таму ніякіх асаблівых негатыўных праяў не адзначалася. Але ў апошнія дні ў Віцебску з'явілася шмат прыезджых і не выключаліся выпадкі хуліганства, крадзяжоў. Вунь учора звялі машыну ў аднаго з нашых супрацоўнікаў са стаянкі. Так што без аховы, як бачыце, абысціся складана...

**— Віцебск пасля начных канцэртаў і сапраўды жыў па прынцыпе "гуляць дык гуляць!": народу на вуліцах — процьма!**

— ...А потым ахове даводзілася займацца яшчэ і тым, чаго людзі ўвогуле і не бачаць: на фэсце круціліся вялікія сродкі, каштоўныя прызы... Вядома ж, не настолькі, каб мы хадзілі ў бронекамізэльках, са зброяй, але прадбачыць трэба было ўсялякае.

**— А Вы глядзелі канцэрты?**

— Я быў там, дзе і прэзідэнт. А ён глядзеў амаль усе канцэрты, проста з другога боку амфітэатра, дзе стаяць маніторы, выходзяць артысты. Там часам гуртуюцца такія натоўпы, што могуць знесці каго заўгодна. А праходы за кулісамі вузкія. Аднойчы, калі, рыхтуючыся да выхаду на сцэну, там стаяў ансамбль "Бярозка", у мяне літаральна галава пайшла кругам. Столькі парфюмерных пахаў сканцэнтравалася на гэтым пятачку, што я ледзь... не страціў прытомнасць!



*На здымку: ахоўніца Надзеі Бабкінай.*

## ПАРАДНАЯ ЛЕСВІЦА




# "ЖУРЫ ЎПЕРШЫНЮ НЕ ЗГАВОРВАЛАСЯ"

*Уладзімір МУЛЯВІН:*

**— Калі судзіць па тых ацэнках, якія Вы ставілі канкурсантам у першы дзень, можна меркаваць, што настрой у Вас быў далёка не святочны...**

— ... Бо патрапілі першыя салісты і ў сэнсе выканання, і рэпертуару, як кажуць, проста "ў малако": надта нізкі ўзровень, таму і ацэнкі былі нізкія. У другім туры яны крышачку лепш сталі спяваць і нават для мяне адкрыліся некаторыя салісты, напрыклад, Балакіраў з Расіі, ён выконваў рокавую мелодыю і быў арганічны. Потым Анісімава, якая заваявала 2-ю прэмію, і мы нават заснавалі спецыяльны прыз кампазітару — аўтару песні, якую яна выконвала. І, вядома ж, Руслана... Я ніколі не думаў пасля рэпетыцыі і пасля першага тура, што ў нас з'явіцца Гран-пры. Але калі яна праспявала ў другім туры, мы ўжо не сумняваліся, што гэта — пераможца. Вы ж памятаеце: кожны паставіў ёй па дзесяць балаў...

**— Не згаворваючыся?**

— Зусім не згаворваючыся. І гэта быў, дарэчы, першы конкурс, калі ў нас не згаворвалася журы. Усе мы аўтаномна сядзелі і не ведалі, якія ацэнкі ставіў сусед. Мы з Васілём Раінчыкам, вядома, "хварэлі" за нашу Іскуі Абалян і імкнуліся дапамагчы, як маглі. Канечне, па рэпертуары не ўсё было ўдала: песні не конкурсныя. Бо да конкурсу трэба рыхтавацца спецыяльна: паказаць свой вакальны дыяпазон, свой музычны густ, літаральна ўсё. Словам, ёсць конкурс, а ёсць проста канцэрт, гэта розныя рэчы. Бывае, у час канцэрта конкурсныя рэчы не заўсёды "ідуць" на публіку, але на журы спрацоўваюць добра.

**— Можна завесці залу на мелодыі з трох нот?**

— Іменна. Як у нас калісьці Кудрын надумаў завесці публіку і журы і праспяваў "Канарскія астравы", прадстаўляючы Беларусь. Ён пусціўся ў скокі, і залу завёў, але гэта было смешна і нецікава. А вось калі б ён выканаў тады цудоўную па ўсіх параметрах песню "Янка Купала", дык, гарантую, стаў бы адным з лаўрэатаў. У падборы сказваецца і густ, і сталасць выканаўцы.

**— Ну а знешнія атрыбуты?**

— Мяне гэта ніколі не хвалявала. Вазьміце Эдзіт Піяф або Клаўдзію Шульжэнка, Джагера або Колінза: не такія яны эфектныя, але сваім голасам зачароўваюць.

**— Цікава, як трапіла на конкурс спявачка, якая прадстаўляла Францыю? Мне падалося, што гэта быў такі канфуз...**

— Ой, не ведаю. Па-мойму, яна ніякая не француженка, бо надта бойка размаўляла на рускім слэнгу. Так, гэта было самае непрафесійнае вакальна, але артыстычнае выкананне. Потым мне ўжо сказалі, што ў апошні момант яна замяніла нейкую французскую выканальніцу...

Уладзімір МУЛЯВІН

Сяргей АНЦІПАЎ

Васіль ЗІНКЕВІЧ

Вахтанг КІКАБІДЗЕ

Філіп ЖМАХЕР

# "АДНА НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ, ПА-МОЙМУ, ЗДАРЫЛАСЯ..."

*Вахтанг КІКАБІДЗЕ (Грузія):*

**— Буба, прабачце за фамільярнасць, але дазвольце звярнуцца да Вас так, як звяртаюцца паўсюль вашы прыхільнікі...**

— Я паважаю жаданні і звычкі сваіх прыхільнікаў. Гэта — святое! Ну і?..

**— Конкурс маладых з вышыні вопыту і прафесіяналізму...**

— Слабы падбор. Я разумею, што цудоўна, калі з'яўляюцца таленты. Але нам, напрыклад, ніхто крыштальных ваз не даваў. Мы "ўкалывалі" самастойна, і 99 працэнтаў маіх сяброў, якія яшчэ спяваюць і лічацца добрымі артыстамі, ніякіх "інстытутаў" не заканчвалі. Яны прыйшлі з вуліцы і спявалі за капейкі, але ім і сёння няёмка сказаць, што яны — "зоркі". Разумееце?

**— А як Вам такі сюрпрыз, як француженка?**

— Вы думалі, што гэта жарт? Я таксама спачатку так падумаў, але калі пачалі збіраць балы, зразумеў, што гэта — на поўным сур'ёзе. Ведаеце, у чым справа? У кожнага чалавека — свая праблема. Але не варта навязваць іншаму чалавеку пошукі самавыражэння...

**— На Вашу думку, журы не "прагледзела" які-небудзь талент на конкурсе?**

— Адна несправядлівасць, па-мойму, здарылася. Гэта балгарская спявачка Сюзана Сід. Я два конкурсныя дні ставіў ёй найвышэйшы бал. Цудоўная спявачка! Калі гэта конкурс песні, значыць — гэта конкурс вакалістаў перш за ўсё. І я падышоў да Сюзаны і папрасіў прабачэння за тое, што яна нічога не атрымала...

**— Ну, а наша Іскуі Абалян?**

— Я скажу агульна: нічога асабліва яркага не было, на жаль... Турак, каларытны хлопец, які атрымаў першую прэмію, выйшаў і праспяваў песню, якую я лічу неэтычным прэзентаваць з эстрады: "мой друг уехал... больше не вернётся..." І праскочыла кабацкая песня на "ўра" за кошт недасведчанасці, нецывілізаванасці залы. Дарэчы, Хасан — не чыста эстрадны спявак, у яго пастаўлены голас...

**— Кшталту знакамітага Рубашкіна?**

— Дык вы лепш за мяне ведаеце... Потым, я думаю, што "галава сабакі" закапана ў іншым. Папярэдні адбор — вось што галоўнае! Я кажу аб прафесіяналізме. Разумееце? Калі мы разважаем пра самадзейнасць — гэта адно. А калі мы прыдумваем крыштальныя вазы і Гран-пры, то гэта зусім іншая размова. Ёсць кабацкая песня, а ёсць... Вось хлопчык Хасан Азкайя — стопрацэнтны вакаліст. Але эстрадны спявак — гэта іншае: Бісер Кіраў, напрыклад, які тут, у Віцебску, на фестывалі. Марк Бернэс... Была Шульжэнка...

**— Я магу вось гэты прыклад прывесці: Кікабідзе...**

— Не будзем Бубу чапаць (відаць, засаромеўся — **"К."**) ... Так што, эстрада — гэта ад Бога. Вось у балгаркі Сіт гэта ідзе знутры. Яна ўмее спяваць. І мне, паўтаруся, сорамна, што таленавітая дзяўчына нічога не атрымала. Я нікому з журналістаў пра гэта не казаў, бо не хацеў абвастраць сітуацыю...

# "НІХТО НА АЛЬТРУІЗМ НЕ ПАКУТУЕ. АКРАМЯ НАС..."

*Праграма "А", вядучы Сяргей АНЦІПАЎ ("РТ"):*

**— Скажыце, калі ласка, якім бокам або чынам беларускія выканаўцы змогуць узяць недасягальную пакуль вяршыню славутай "А"?**

— Але група "Крама" была ўжо ў эфіры...

**— А чым яна Вам імпануе?**

— Атрымалася так, што мы паабяцалі прыз на фестывалі "Пакарэнне": таго, хто нам спадабаецца на ім больш за ўсіх, запросім у канцэрт "Праграмы "А". Спадабалася "Крама", якая сапраўды была лепшай, і мы з задавальненнем зрабілі здымкі. Хто ў перспектыве? Ну, я бачыў запісы групы "Палац", цяпер пагляджу іх "жыўцом", пагляджу, як яны працуюць... А ўрэшце, не я заказваю музыку, як кажуць...

**— Прабачце, а хто ж?**

— Музыку заказвае музычны рэдактар, які ацэньвае выканаўцу з пункту погляду працы "жыўцом". Бо выканаўца на касеце можа спадабацца, а ў нас жа па ўмовах — канцэрт "без фанеры", мала ці што можа здарыцца ў эфіры. Таму адбор вельмі сур'ёзны...

**— Хацелася б, каб "Палац" на "Славянскім базары" зрабіў уражанне не толькі на папулярнага вядучага ў Вашай асобе, але і на строгага суддзю ў асобе музычнага рэдактара праграмы "А". Бо часам здаецца, што крытэрыем ацэнкі "А" з'яўляецца яшчэ і "дзяржаўная прыналежнасць" выканаўцаў. Пераважаюць усё ж расійскія групы...**

— Нацыянальны падыход? Ды не... Арыгінальнасць музыкі, уменне працаваць "жыўцом" — так. А праблема яшчэ ў тым, што надта многа грошай у нас няма, таму запрашаць людзей мы не заўсёды можам. Словам, хто ў Маскве знаходзіцца, таго і здымаем...

**— Вы вельмі абаяльны чалавек і Вы нам падабаецеся. Але сёння хацелася б пачуць Вашы пажаданні ад "Праграмы "А" газеце "Культура", якая знаёміць беларускіх чытачоў і з "папсой" свету таксама...**

— Пажаданне на самой справе дурацкае: будзьце культурнымі! Імкніцеся быць культурнымі — і ўсё! Нават мы імкнемся быць культурнымі. Мы хочам, каб нашы гледачы былі на ўзроўні, мы стараемся ва ўсіх экстрэмальных напрамках, якія паказваем, не апускацца да пошласці ў музыцы. Сярод тых музыкантаў, якіх мы запрашаем, бываюць людзі вельмі рэзкія, бываюць і тыя, хто выкрыквае нават словы мацюкоў. Мы гэта "засвістваем". Таму пажаданне нам — не апусціцца да гэтага; пажаданне гледачам, слухачам, чытачам — таксама не апускацца, а шукаць нешта культурна-новае, не зніжаць планку густу.

**— І ўсё ж, у нас на Беларусі бытуе пагалоска: каб прабіцца ў музычны эфір на "РТ", трэба плаціць канкрэтную суму грошай...**

— Грошы шалёныя, але не ведаю — колькі. І нармальнаму музыканту проста немагчыма прабіцца.

**— Але мы чулі, што адзіная праграма, якая, скажам так, незалежная, гэта "Праграма "А"?**

— Я не ведаю наконт адзінай, мабыць, ёсць яшчэ дзве-тры. Але па расказах сёння ніхто на альтруізм не пакутуе. Акрамя нас. Магчыма гэта залежыць ад выхавання людзей, якія робяць нашу праграму. Словам, падабралася кампанія выхаваная, культурная, відаць. Мы шмат разоў гэтую праблему абмяркоўваем, рэгулярна нават. Як толькі ў чарговы раз начальства скажа, маўляў, грошай няма на здымкі і г.д., тады пачынаюцца жарты: а ці не стаць нам, як усе, драць грошы з артыстаў? Тады і адзенне можна набыць, а не толькі здымкі правесці... Не, не можам! Таму за гэта нас любяць і за гэта нас не любяць калегі, якім мы збіваем цэны. А ўрэшце, у напалову прыватнай, напалову дзяржаўнай кампаніі, якой з'яўляецца "РТ", магчыма, грошы — гэта натуральны падыход. Але мы да яго пакуль не падрыхтаваныя...

# "ХОЦЬ І ПРЫЗАБЫТА СЁННЯ ВАША МОВА..."

*Васіль ЗІНКЕВІЧ, народны артыст Украіны:*

**— Што для Вас фестываль?**

— Без перабольшання, відаць, даўно-даўно надышла пара сабрацца ў "старородынно кола". Я ніколі не дазваляў сабе аднабакова смакаваць якуюсьці адну з нацыянальнасцей або народнасцей. Я ніколі не зневажаў свайго славяніна-брата і не хацеў бы, каб ён мяне зневажаў. Шкадую, што раней не браў удзел у "Славянскім базары", і перакананы, што мы даўно тут павінны былі сабрацца, каб адну з граняў славянства скіроўваць у свет. Паасобку нас кожнага ведаюць і цэняць у свеце, бо мы як беларусы, як рускія, як украінцы або сербы ўяўляем пэўную каштоўнасць ужо даўно. Але цяпер, як кажуць, прышчапіце сваю "вітку" на агульным дрэве мастацтва. Інтанацыйна мы ўжо даўно гучым унісоннай струной, а цяпер, наадварот, трэба раскрываць, жывіць адзін аднаго, "не засыхаты"...

**— Многія творцы, якія нарадзіліся на Украіне, знайшлі сябе на Беларусі. Дык ці ж нам з вамі "засыхаты"?**

— Абсалютна! Я не ведаю, Рудэнка — ён ці ваш, ці наш? Я хачу сказаць, што грунт Беларусі настолькі моцны энергетычна, што прасякае наскрозь. Напрыклад, я маю мора дзіцячых кніжак, у захапленні ад таго, як іх вашыя мастакі афармляюць, мае сыны, дарэчы, на гэтых кнігах выраслі. Так, хоць і прызабыта сёння ваша мова, але настолькі моцны патэнцыял нацыі, што мне здаецца, што Беларусь калісьці ў старажытнасці была магутнай, высокатворчай і мудрай дзяржавай. Тут штосьці ёсць, бо з'яўляюцца зусім нечаканыя павароты: і тыя ж "Песняры" адкуль? Хоць і мова ваша не гучыць, як бы хацелася, ад раніцы да вечара, я не хачу ні асуджаць, ні павучаць. Але сіла энергетыкі біяполя дзяржавы Беларусь настолькі магутная, што вашы паэты, мастакі, спевакі, яны нацыянальна так гучаць, што іх ні з кім не пераблытаеш. Як наша Саламія Крушыльніцка: яна ж спявала сусветную класіку ў Ля Скала — італьянскую, іспанскую, нямецкую і паўсюль была сваёй, але засталася ўкраінскай спявачкай, голас застаўся ўкраінскім. Вось чаму трэба нам адзінства "родынного кола", гэта дасць нам сілу, і мы не будзем закрыты кожны ў сваім коле. Калі я ў вас бяру і гэта мяне поўніць, то сваімі прамянямі я буду потым аддаваць абавязкова. Не забуду, як сказала маці славутай Людміле Георгіеўне Зыкінай: "Ты, дзіцятка маё, аддай усё людзям, бо браць умеюць усе"... Так што, раніцай падняўся, падзякуй Богу, што ён падараваў табе дзень. І ў вас на Беларусі мне добра, лёгка, але я зусім не абкрадаю вас, толькі налаўняюся і абавязкова калісьці аддам вам гэта...

**— Што б Вы хацелі пажадаць нашай зямлі?**

— Дрэва старажытнай культуры Беларусі — высокае. Народ Беларусі — святлейшы, разумнейшы, дабрэйшы, і калі ад імя яго, бывае, хтосьці штосьці робіць, то гэта на маленькі адрэзак часу. Усё будзе так, як павінна быць! І ў вас, і ў нас...



# ПАРАДНАЯ ЛЕСВІЦА




## "ЧЕ-ПУ-ХА!"

*Алег ГАЗМАНАЎ:*

**— Як Вам падабаецца?..**

— Вельмі падабаецца! Па-першае, выдатная пляцоўка, дзе прафесійнаму музыканту выступаць зручна, ну проста — асалода! Тут выдатная апаратура, цудоўнае асвятленне і, што галоўнае, душа спявае на прасторы: канцэртная пляцоўка на вуліцы, у надта маляўнічым парку, дзе працаваць вельмі прыемна. І, нягледзячы на вялікую колькасць людзей, якую яна ўмяшчае, гэта —камфортная пляцоўка, усім усё бачна і чутно. Ну, а глядач тут проста найдобразычлівейшы! Здаецца, што ці не круглы год рыхтуецца да рытуалу выхаду на канцэрты...

**— Алег, мне асабіста на адкрыцці "Славянскага базару", менавіта ў першы дзень, падалося, што колішні дух Крамлёўскага палаца з'ездаў так і лунаў над амфітэатрам. Нібы пафас ды некаторыя нумары так званых урадавых канцэртаў перанеслі з Масквы 80-х у Віцебск 96-га. Ну, а Вы што скажаце?**

— А навошта ўвогуле так гаварыць? Пытанне не этычнае. У адносінах да гледачоў, якія прыходзяць на канцэрт. Ну калі б не было такога аншлага... А відовішча каштуе грошай, так што, як бы Вы ні запыталі і як бы ні было на самой справе, галоўнае — гэта людзі. Калі ім падабаецца, значыць, артысты маюць рацыю. А ўсё астатняе — "че-пу-ха!"

## "ТУСАВАЦЦА МНЕ НЯМА КАЛІ..."

*Яўген МАЦВЕЕЎ, акцёр і рэжысёр:*

Без «Культуры» нам всем очень плохо!..
Ев. Мацвеев
12.7.96 г.

**— У якой іпастасі Вы прыехалі на фестываль: як госць ці як удзельнік?**

— Зразумела, як удзельнік. А госць? Усе мы госці на гэтым свеце...

**— Што для Вас фестываль? Тусоўка? Свята? Магчымасць кантактаў?**

— Ён — з'ява унікальная... Вядома ж, свята! А тусавацца мне няма калі. Ды ўвогуле, я не люблю гэтае слова —"тусоўка"...

(Выдатны артыст і Асоба Яўген Мацвееў расказаў нам не толькі пра тое, як яму радасна і хораша ў Віцебску. Мы даведаліся пра трагічныя хвіліны ягонай біяграфіі, пра тое, што перажыў мастак у час камерцыялізацыі кіно і чалавечага сумлення. Пра гэта — у бліжэйшым нумары "Культуры").

## ТРАМПЛІН У КАР'ЕРУ

*Філіп ЖМАХЕР, уладальнік Гран-пры "Славянскага базару-95" (Югаславія):*

**— Што прынесла Вам леташняя перамога ў Віцебску?**

— Прынесла тытул і грошы.

**— Значыць, гэта быў высокі трамплін пад назвай "Славянскі базар"?**

— Але ж да яго ў мяне было восем прэмій. І ўсё ж мінулы фэст — самы вялікі мой поспех у жыцці. І для мяне, як славяніна, гэта вельмі прыемна. Я адчуваў сябе сапраўды шчаслівым летам 95-га ў цудоўным горадзе Віцебску. І цяпер, калі тут спяваю, то разумею: я проста абавязаны быць на гэтай сцэне.

**— Ну, а Ваша кар'ера спевака? Ці змянілася нешта ў жыцці?**

— Усё выдатна! Менавіта Гран-пры вельмі дапамог мне зрабіць далейшую кар'еру ў Югаславіі, я стаў пераможцам песні года. Ды і наогул пасля прыза ў жыцці ўсё складваецца да лепшага. Летась у Балгарыі на "Залатым Арфеі" я атрымаў 2-ю прэмію. Так што трамплін быў і сапраўды высокі. Словам, пасля "Славянскага базару" кар'ера ў мяне стала міжнароднай...

**— Можна толькі ў чарговы раз за Вас парадавацца. А каму Вы, Філіп, сімпатызавалі на конкурсе маладых выканаўцаў?**

— Руслана з Украіны — лепшая за ўсіх! Гэта сапраўдны талент, і дзяўчына, не сумняваюся, дасягне таго, чаго жадае... Іскуі Абалян мне таксама спадабалася. А яшчэ хлопец з Масквы Ігар Балакіраў, Мая з Грузіі і Анісімава з Масквы. Наогул канкурсанты сёлета былі намнога мацнейшыя, чым у мінулыя гады. І бачна, як у гэтым сэнсе "Славянскі базар" расце, падымаецца яго ўзровень і прэстыж. Так што трамплін "СБ", мусіць, стаў яшчэ вышэйшым!

## ... ДА ПЕРШАЙ ПРЫСТУПКІ ЛЯ ДЗВЯРЭЙ

*ПЕЦЯ, Балгарыя:*

**— Вам тут не халодна было ў Віцебску?**

— Не было халодна, бо я на сцэне нічога не адчуваю. Нават учора апранала надта экстравагантны туалет, дык халодна было да першай прыступкі ля дзвярэй. Потым на ўсё забылася...

**— Сапраўды, надвор'е на "Славянскім базары" ўтварае зусім не атмасферны ціск...**

— І праўда, не неба... Галоўнае, што ёсць такі конкурс, дзе можна славянам паказацца, кожны можа зверыць свой гадзіннік, вобразна кажучы, убачыць, куды вядзе гэтая лесвіца мастацтваў. Вельмі прыемна, што можна наладзіць тут мноства кантактаў з людзьмі з розных рэспублік. Я наогул люблю фестывалі,бо сама ўладальніца двух Гран-пры і дваццаці трох прызоў на розных фэстах. Некалькі гадоў таму мяне запрашалі як удзельніцу, як канкурсантку, а цяпер як госцю. І гэта мяне саграваё...

## ПА МІНСКУ ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ...

*Іна АФАНАСЬЕВА, Беларусь:*

**— Як нарадзілася Ваша "Авэ Марыя" з камерным хорам?**

— Гэта ідэя Уладзіміра Мулявіна і Ігара Мацюхова. Яны мне патэлефанавалі і прапанавалі. А я згадзілася.

**— Іна, у гала-канцэрце беларускага дня быў такі пікантны падраздзельчык "Эмігранты", у якім выступалі цяперашнія расійскія "зоркі", былыя нашы. Дык вось, па Мінску ходзяць чуткі, што Вы сабраліся пераязджаць у Маскву. Чуткі гэта ці праўда?**

— Ну як вам сказаць? Я не магу адназначна сцвярджаць, што ад'язджаю ў Маскву, гэта хутчэй за ўсё чуткі. Але пэўныя прапановы ёсць, я проста цяпер не хачу пра гэта гаварыць, пакуль не буду ведаць дакладна...

**— Некалькі слоў пра конкурс маладых выканаўцаў. Калісьці ж і Вы выходзілі на сцэну ў іпастасі канкурсанткі?**

— Дальбог, я цяпер бы пабаялася ўдзельнічаць у конкурсе, хаця ў мяне ёсць дастатковы вопыт. Але мне здаецца, што такія выпрабаванні трэба праходзіць адзін раз у жыцці. Потым гэта не цікава, страшна, боязна. А вось першы раз, калі прымаеш удзел, застаецца светлае пачуццё, добры ўспамін. На "Славянскім базары-96" мне спадабаліся бадай усе канкурсанты, асабліва Ігар Балакіраў з Расіі. Наша Іскуі Абалян паказалася достойна, і шкада, што ёй не хапіла толькі аднаго бала, каб стаць лаўрэатам...

Ніна ШАСТАКОВА



Іскуі АБАЛЯН

Алег ГАЗМАНАЎ



ПЕЦЯ

Іна АФАНАСЬЕВА

## СОНЦА ЯЛТЫ ПЕРАМАГЛО?

*Ніна ШАСТАКОВА, народная артыстка Украіны:*

— Я на гэтым фестывалі не ўпершыню, была ў 1993 годзе. Мне ўсё падабаецца, нават цяжка сказаць, што тут кепска. Мы цудоўна кантактуем адзін з адным, няма тут ніякага "зорнага" пафасу сярод артыстаў. Гэта выдатна! Вось у нас на Украіне ўсё нібыта някепска, ёсць і фестывалі. Але іх мала, а такога маштабу, як "Славянскі базар", увогуле няма. Шкада і тое, што толькі два артысты прадстаўлялі на адкрыцці Украіну: Васіль Зінкевіч і я. Хацелася б, каб на наступны год у Віцебск прыехала нашых майстроў больш, у нас жа таксама шмат выдатных выканаўцаў, як, дарэчы,і ў вас. Я асабіста сябрую з Ядзяй Паплаўскай і Аляксандрам Ціхановічам, і мне б вельмі хацелася, каб беларускіх "зорак" на сцэну выходзіла больш, а то пакуль што Масква ўсё ж у гэтым сэнсе пераважвае.

**— Ну а чаму ж так мала "зорак" з Украіны, на Вашу думку?**

— Відаць, у нас з вамі супалі фестывалі: цяпер у Ялце праходзіць "Мора сяброў" і многія паехалі туды. Магчыма, з гэтым звязана...



Яўген МАЦВЕЕЎ

## ВЕРНІСАЖ-КАКТЭЙЛЬ

# “Я НІКУДЫ НЕ ЗБІРАЮСЯ АД’ЯЗДЖАЦЬ...”

***У музеі Марка Шагала ў межах праграмы фестывалю з поспехам прайшла выстава палотнаў вядомага расійскага жывапісца Нікаса Сафронава. “Сярод мастакоў на Захадзе ведаюць Глазунова і мяне” — гэтае смелае выказванне аўтара, што вынесена ў афішу ягонай выставы, без сумніву, прыцягнула ўвагу многіх віцяблян і ўдзельнікаў фестывалю.***

**— Нікас, што для Вас азначае вернісаж у Віцебску?**

— Для мяне вялікі гонар, што мая выстава наладжана ў музеі Марка Шагала. Шагал — адзін з самых любімых маіх мастакоў.

**— У якім напрамку Вы працуеце?**

— Я рэаліст. Люблю партрэт, аголеную натуру, нацюрморт, пейзаж, асабліва марскі. Але і сюррэалізм мне не чужы. Сальвадор Далі адкрыў для мяне магчымасць пісаць гэтаксама, як я думаю. Я прысвяціў вялікаму іспанцу некалькі твораў.

**— Ваша карціна “Сон сюррэалізму” — адзін з іх?**

— Так.

**— Мяркуючы па экспазіцыі, Вы любіце складаную метафару, шматвобразныя, вытанчаныя асацыяцыі і сімвалы, гістарычныя рэмінісцэнцыі, перацяканні і перасоўванні прастораў, часоў, вобразаў, што ствараюць шматгалосую музыку, і адначасова, як у карціне “Мадонна з немаўляткам”, заглыбляецеся ў эпоху Адраджэння...**



Нікас САФРОНАЎ

— Мне так падабаецца. Зварот да вялікіх вобразаў з’яўляецца для мяне крыніцай эстэтычнай і маральнай веры. Так, мяне лаюць за нібыта розныя стылі, розныя тэхнічныя прыёмы. Але мяне гэта не палохае. Я такі, якім мяне стварыў Бог.

**— Хто Вашыя бацькі і дзе Вы вучыліся?**

— Я нарадзіўся ва Ульянаўску. Бацька — вайсковец, маці — педыятр. У дзяцінстве марыў стаць мараком. Год вучыўся у Адэскай мараходнай вучэльні, але зразумеў: гэта не для мяне. Паступіў у Растоўскую мастацкую вучэльню, але і яе не скончыў — забралі ў войска. Пасля дэмабілізацыі вучыўся ў Вільнюскім мастацкім інстытуце. Калі атрымаў дыплом, пераехаў у Маскву. Доўгі час не выстаўляў свае творы, бо “выпадаў” з агульнапрызнанай тагачаснай мастацкай мадэлі “шылаўскага” сацрэалізму. Але затое з 1978 пачаў выстаўляцца за мяжою, дзе пазнаёміўся са знакамітым італьянскім калекцыянерам Чэразі. Ён і дапамог мне стаць тым, кім я з’яўляюся сёння. Потым мае творы пачалі з’яўляцца і на айчынных выставах: першая адбылася ў Акадэміі мастацтваў СССР. Пасябраваў з Міхаілам Гарбачовым, пачаў выязджаць за мяжу. Для некалькіх карцін мне пазіравала Сафі Ларэн. Неяк яна сказала мне, што “невыносныя пакуты несмяротнай славянскай душы” раскрыліся ёй менавіта ў маім жывапісе. У яе зборы — пяць маіх твораў. Акрамя гэтага, мае палотны маюць Стывен Спілберг, Стынг, Дэвід Броўн, Міхаіл Гарбачоў, мае шматлікія маскоўскія сябры.

**— Дарэчы, хто Вашыя сябры?**

— Ілля Глазуноў, Мікіта Міхалкоў, Алег Янкоўскі, Уладзімір Мяншоў. Добрыя адносіны склаліся з Хуліа Іглесіясам, Даянай Рос, Элтані Джонам — усіх іх я пісаў з натуры. Нядаўна Алег Яфрэмаў запрасіў мяне працаваць над ягоным спектаклем “Тры сястры”, а Валянцін Гафт напісаў і апублікаваў у сваёй кнізе восемдзесят вершаў да маіх твораў. Праз карэспандэнта “Пары матч” я пазнаёміўся з П’ерам Кардэнам, які прапанаваў мне наладзіць персанальную выставу ў ягонай парыжскай галерэі “Прастора Кардэна”.



Партрэт Сафі Ларэн

**— Акрамя “чыстай” творчасці, чым Вы яшчэ займаецеся?**

— Я з’яўляюся арт-дырэктарам часопісаў “Penthaus” і “Дипломат”, супрацоўнічаю з міжнародным навуковым часопісам “Аура-Z” і кансультую па пытаннях Расіі часопіс “Voug”.

**— Ці выдадзены за мяжой альбом, прысвечаны Вашай творчасці?**

— Так, у Аўстрыі. Зараз рыхтуюцца яшчэ два альбомы — у Бельгіі і Швейцарыі.

**— Чытаў, што Вы назаўсёды паехалі з Расіі ў Англію і жывяце там. Ці праўда гэта?**

— З Расіі я нікуды не ад’язджаў. І ад’язджаць не збіраюся. Без Расіі я — ніхто. У мяне ёсць карціна “Настальгія” — гэта дом, які, дзе б ты ні быў, табе вечна дарагі. Я ажаніўся з англічанкай, і мая сям’я жыве ў Лондане. Безумоўна, крыўдна: маё дзіця ведае тры мовы і амаль не размаўляе па-руску. Адзін раз на тры месяцы прыязджаю да яго на тыдзень. Акрамя гэтага, у італьянскіх Альпах наймаю дом, каб працаваць. Калі страчваю натхненне і разбіваецца сэрца, тады я вяртаюся дадому, у Расію.

**— Ваша мара?**

— Сабраць усе мае творы і зрабіць вялікую персанальную выставу ў Маскве. Хаця гэта вельмі цяжка...

# “ДЗЕ КРЫЎДА — ДАРАВАННЕ...”



У. Вальноў. “Вяртанне анёла”

***Лёс віцебскага мастака Уладзіміра Вальнова не звычайны. Улетку 1944-га, падчас Вялікай Айчыннай, яго, чатырохгадовага хлапчука салдаты знайшлі проста ў акопе, на перадавой каля Гарадка. Байцы кінулі яму ў кішэню паперку з імем “Уладзімір Вальноў” і перапраўлі ў тыл. Амаль чатырнаццаць гадоў Валодзя правёў у розных расійскіх дзіцячых дамах.***

***І паводле пашпартных дадзеных ягонай радзімай лічыцца Цвярская вобласць. Таму ён мае дзве радзімы. Маці ў 43-м расстралялі паліцаі. Бацька тады знаходзіўся ў партызанах. Бацьку ён знайшоў у 1961 годзе і толькі тады даведаўся пра сваё сапраўднае прозвішча — Хадыка. У сярэдзіне 70-х вярнуўся ў Віцебск, на радзіму...***

**— Валодзя, сваю выставу ты прымеркаваў да V Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар” і цалкам прысвяціў яе Віцебску. Чаму ты назваў выставу “Боль. Роздум. Радасць”?**

— Мінула шмат гадоў з таго часу, як я вярнуўся ў гэты горад. І ўсё, што адбываецца ў ім, адбываецца і са мною. Узарваныя храмы і разбураныя будынкі ў старой частцы горада — боль маёй душы. Аднаўлены Пакроўскі храм, з якога мы вынеслі тоны цагляных аскепкаў і смецця — замілаванне душы. Неўзабаве “цела” Дабравешчанскага сабора набудзе “главу” — зноў радасць душы.

**— Віцебск сёння ўжо далёка не правінцыйны горад. Шагал, Дабужынскі, Малевіч, Лісіцкі, Бахцін, Міжнародныя пленэры мастакоў, міжнародныя “Славянскія базары”, рэпінскае Здраўнёва...**

— Так, дух рэфарматараў мастацтваў лунае ў горадзе, сілкуючы творчую моладзь, з якой знітаваныя нашыя надзеі. Гэты горад заўжды ў маёй душы. І два дзесяткі гадоў я аддаў яму — у сваім мастацтве... У экспазіцыі я паказаў толькі частку маіх твораў, прысвечаных Віцебску. Другая частка — зараз на выставе ў Нямеччыне.

**— У якую пару года ты больш за ўсё любіш свой Віцебск?**

— У любую. Але асабліва на золку, калі горад яшчэ спіць. І тады можна спакойна зазірнуць у кожны стары дварок. І з радасцю ўбачыць яшчэ адзін адрэстаўраваны будынак альбо пакутліва перажыць страты...

**— Як я зразумеў, галоўны боль горада — аднаўленне даўніны і, перш за ўсё, храмаў?**

— Так, у храмах душа адлачывае, у іх жыве прыцягальная моц, тут напітваешся выратавальнай верай. Апрача гэтага, храмы надаюць гораду чароўны сілуэт. Безумоўна, патрэбны велізарныя сродкі. Але што можа быць важнейшым за душу, якая лечыць цела?

**— Вечная праблема...**

— Усе мы толькі госці на гэтай зямлі, але ў справах сваіх мы павінны арыентавацца на Вечнасць. Шмат што яшчэ павінна змяніцца ў нас саміх. Але і ў гэты неспакойны і трывожны час я веру: там, дзе сёння жыве нянавісць — заўтра будзе квітнець любоў, дзе крыўда — дараванне, дзе сварка — яднанне, дзе сумнеў — вера, дзе адчай — надзея, дзе цемра — святло, дзе смутак — усмешка. А боль, роздум, радасць заўжды застануцца са мною. Гэта мае памагатыя, якія пастаянна нагадваюць мне пра тое, што я жыву. І пра гэта — мая выстава...

* * *

Адбылася прэзентацыя новага цудоўнага альбома віцебскіх мастакоў Таццяны і Юрыя Рудэнкаў, які выдадзены ў ЗША ў выдавецтве Аляксандра Сагана. У альбом увайшлі 165 рэпрадукцый твораў мастакоў па пяці раздзелах: “Габелены”, “Афармленне сцэны”, “Заслоны”, “Творы ў змешанай і аўтарскай тэхніцы”, “Батык — тэмпера — вышыўка”, “Ювелірныя ўпрыгожанні”. Творчасць гэтага таленавітага дуэта ўжо даўно вядомая не толькі на Беларусі, але і далёка за яе межамі. Іхнія выставы экспанаваліся ў Швецыі, Фінляндыі, Ізраілі, Польшчы, Нямеччыне і нават на Алясцы, у горадзе Анкорыдж!

Дарэчы, Юрый Рудэнка з’яўляецца аўтарам прыза Першага міжнароднага конкурсу прыгажосці “Міс Славянка”, прыза для журналістаў “Залатое пяро”, ганаровага знака Міжнароднай карпарацыі “Славянскі базар”.

* * *

Чацвёртае вымярэнне шукаюць у сваёй творчасці таленавітыя віцебскія мастакі — жывапісец Аляксандр Малей і скульптар Іван Казак. Назва іхняй сумеснай выставы — “Скульптуры ў прасторы і на карцінах”. А.Малей — адзін з арганізатараў вядомага творчага аб’яднання “Квадрат”, Першага міжнароднага пленэру “Малевіч. УНОВИС. Сучаснасць”. Як жывапісец, ён захоплена шукае ў сваім мастацтве “геаметрыю прасторы”. І шукае не толькі вобразна-пластычнымі сродкамі. Пранікненне ў матэрыю жывога духу, у рух супрэматычных формаў — ягоная галоўная задача. І ён яе паспяхова вырашае. У бліжэйшых планах майстра — арганізацыя другога Міжнароднага пленэру, прысвечанага Казіміру Малевічу.

Іван Казак — таксама ўжо сталы майстар, аўтар вядомых у Віцебску помнікаў Уладзіміру Караткевічу і Аляксандру Пушкіну. Экспазіцыя прадстаўлена станковымі кампазіцыямі, выкананымі толькі ў матэрыяле. Творы “Боль”, “Брама”, “Помнік ускрытых мошчаў”, “Напалеон і Жазэфіна” ды іншыя напоўненыя філасофскім сэнсам, унутранай дынамікай і пругкасцю складаных пластычных форм.

* * *

Выстава жывапісу і графікі пад назвай “На востраве душы” прайшла ў Мастацкім музеі. Яе аўтары — сям’я мастакоў Лук’яненкаў з Наваполацка — Віктар, Вольга і іхняя 12-гадовая дачка Ула. Экспазіцыя распавядае пра загадкавы кантынент душы, пра ягоныя метамарфозы, якія напоўнены прыгожымі фантазіямі, казачнымі марамі і дзіўнымі снамі пра цудоўную планету Лулундзію. На гэтай планеце па прыгожых узгорках спяшаюцца ў свае ўтульныя замкі добрыя істоты і лётаюць у нябёсах крылатыя вусені, “лупавочкі” і матылькі, а мудрая змяя надзейна ахоўвае скарбы і таямніцы Лулундзіі...

* * *

У Дзень горада адбыўся незвычайны вернісаж-кірмаш пад адкрытым небам Віцебска. Прафесійныя і самадзейныя мастакі, народныя майстры з усяе Віцебшчыны вынеслі свае творы не толькі ў сквер імя Маякоўскага, але і на вуліцы і плошчы горада. Чаго тут толькі не было! Жывапісныя палотны і акварэлі, разьба па дрэве і скульптурныя мініяцюры, казачныя вышыўкі і фантастычныя роспісы па драўлянай матрошцы, лялькі і вырабы з саломкі, керамічны посуд і ткацтва, біжутэрыя і прыгожая мэбля з лазы, самаробныя ручнікі і карункі, саламяныя кветкі і лапікавыя коўдры ды падушкі. А шмат хто з мастакоў проста пад валошкавым небам малюе з натуры. Хочаш — можаш замовіць свой партрэт усяго за 100 тысяч рублёў самому Алесю Пушкіну, хочаш — проста паназірай і палюбуйся, як прыгожа гэта робіцца... Віцебскі кірмаш стаў сапраўдным святам для жыхароў горада і ягоных гасцей. Свята ўсмешак, добрага настрою, добрых пажаданняў і надзей.



Алесь ПУШКІН на “базарнай” плошч...

**Паласу падрыхтаваў Барыс КРЭПАК**

# ”БЫЎ ДЗЕНЬ, БЫЎ ЧАС...”




*Рыхтаваўся сюрпрыз. На Дзень Беларусі. На канцэрце майстроў мастацтва нашай дзяржавы. Здаецца, атрымаўся. Ва ўсякім разе, відовішча было арыгінальным не толькі візуальна, але і насычана бясконцымі сюрпрызамі і сюрпрызікамі. І я не іранізую, далібог! Мэтры сцэны і нашы ўласныя віртуозы з дзіцячага сімфанічнага аркестра музычнага ліцэя, якіх ведае ўся Еўропа, “зоркі-эмігранты”, якія ззяюць цяпер для іншай дзяржавы, і “Камерата”... Але ці варта пісаць пра музыку словамі? Скажу толькі, што музычны спектакль “Беларусь запрашае” не быў падобны на ніякі іншы канцэрт фэсту. Прызнаныя беларускія майстры Мікалай Пінігін, Ігар Мацюхоў, Уладзімір Мулявін і Зіновій Марголін за кароткі час зрабілі ўсё, што было ў іх сілах... Урэшце, ім слова.*

## “МУЛЯВІНУ Я ПАСТАВІЎ БЫ ПОМНІК ПРЫ ЖЫЦЦІ!”



*Мікалай Пінігін, рэжысёр:*

**— Якое Ваша ўражанне ад уласнага канцэрта?**

— Уражанне павінна быць у гледача...

**— Дык ён прайшоў, як Вы яго задумвалі або не?**

— Як казаў мой цудоўны педагог Уладзімір Маланкін, “вялікай ганьбы не было”.

**— Што для Вас яднанне трох культур?**

— Толькі адно: калі кожная з культур прапаноўвае свае каштоўнасці, а не проста, узяўшыся за рукі, танчыць “Гапак” або “Лявоніху”.

**— Каму прыйшла ідэя запрасіць у беларускі канцэрт Алёну Свірыдаву?**

— Уладзіміру Георгіевічу Мулявіну. Справа ў тым, што мы хацелі зрабіць чыста беларускую праграму. Таму паклікалі сюды былых нашых суайчыннікаў, у тым ліку і Алёну, мама якой усё жыццё адпрацавала на БТ рэдактарам, Юрыя Антонава, які ў Вуячыча іграў. Ды і “Самацветы”. Гэта ўсё — нашы, так што мы не выпалі з абоймы. Калі людзі ўспамінаюць старыя шлягеры, гэта абуджае штосьці...

**— Генетычную памяць?**

— Так-так.

**— А надалей Вы, Мікалай, будзеце практыкавацца ў падобных мерапрыемствах?**

— Я ніякага дачынення не маю да шоу-бізнесу. Проста Мулявін прапанаваў, а я не стаў адмаўляцца. Бо я гэтага чалавека бязмежна паважаю і для мяне вялікі гонар працаваць з ім. Я на самой справе паставіў бы яму помнік пры жыцці. Як Лермантаў — з генамі шатландца, як Пушкін — з генамі эфіопа стваралі славу Расіі, так і Мулявін — рускі чалавек, развярнуў усю ідэю беларускай культуры да народа. І народ заспяваў “Александрыну”. І гэта прыйшло не з пастаноў, не з законаў... Гэта прыйшло знутры, з песні, з паэзіі. Вось чаму помнік. І я думаю, што ён будзе стаяць, як помнікі Купалу і Коласу. Гэты чалавек зрабіў тое, чаго не ўдавалася зрабіць ніякім пісьменнікам у савецкі час. Можа, Караткевіч яшчэ стаіць у гэтым шэрагу і Мележ у якойсьці меры. А так...

## НЕ ВЫДУМЛЯЦЬ, ЧАГО НЯМА

*Зіновій Марголін, мастак:*

**— Адкуль узяліся трактары на сцэне?**

— Як адкуль? З Мінскага трактарнага... Яны ішлі ў Англію, але бедныя англічане засталіся без беларускіх машын...

**— Такія прыгожанькія...**

— Дык мы ж заўсёды іх бачым у гноі па самую трубу. Нарэшце ўбачылі, як яны выглядаюць з канвеера...

**— Ну, а чаму камерны хор у фраках стаў на трактарныя прычэпы?**

— Скажыце, а наша жыццё ў Вас не выклікае такія ж дзіўныя асацыяцыі? Вось вы апранаеце добры касцюм або сукенку, выходзіце з дому ў горадзе Мінску і сядаеце ў аўтобус маршрута № 38. Вы памятаеце, як ён выглядае? Страшней за любы трактар пасля яго шасцідзесяцігадовай эксплуатацыі. У вас не ўзнікала пытанне: чаму я еду ў такім дзіўным аўтобусе? Ну і прычэпы — нібы асацыяцыя з нашым жыццём. Усё нібы з нашага жыцця. Немцы выдалі “Мерседэс”, амерыканцы — “Форд”. А трактар — наш нацыянальны гонар. У нас ёсць яшчэ, канешне, “БелАЗ” і “МАЗ”. Але гэтая маленечкая сцэна, мусіць, не вытрымала б ні “БелАЗ”, ні “МАЗ”. Я, вядома, выставіў бы “БелАЗ”ы. Бо з пункту гледжання нацыянальнай ідэі — гэта мацней, гэта сапраўды звышмагутная машына... Але калі без жартаў, дык трактар “Беларусь” на тэрыторыі былога СССР — гэта сімвал. Першы —трактар з “зубрам” і... вусы Мулявіна. Прыязджаем у Маскву, пытанне: “Што з Мулявіным? Як вашы трактары?” Усё, што пра нас ведаюць, на жаль. Што тычыцца Мулявіна, дык я зрабіў такую дзіўную выснову. Адбылася наогул фенаменальная рэч. Нацыянальнае выяўленчае мастацтва 70-х гадоў ярка праявілася ў творах Шаранговіча, Марачкіна, Селешчука, Славука. Але асноўны тыпаж у іхніх творах быў чалавек, падобны менавіта да Мулявіна. І ніхто з мастакоў не задумваўся, што ён, рускі чалавек, стаў сімвалам беларуса, і нават знешне. Я вось зараз на яго гляджу — які ён казак?! Так што заўсёды важная Ідэя. Мулявін выпраменьваў нацыянальную ідэю, ён яе развіў і сам стаў такім. І гэта — рэальнасць... Так што трэба паказваць тое, што ў нас ёсць, а не выдумляць таго, чаго няма.



Алег Моўчан у творчым палёце...

## “ФІЛІП МОРЫС” СПАНСІРУЕ ФЭСТ. І НЕ ТОЛЬКІ...

***Акрамя дзелавых аперацый сусветна вядомая кампанія “Філіп Морыс” праводзіць таксама актыўную міжнародную дабрачынную дзейнасць і культурную палітыку, падтрымліваючы шырокае кола праектаў і праграм, такіх, як “Ахова навакольнага асяроддзя”, “Адукацыя”, “Мастацтва”. Прынамсі, кампанія стала спонсарам выставы знакамітага беларускага мастака Казіміра Малевіча ў Нацыянальнай галерэі мастацтваў у Вашынгтоне. Праз год пасля адкрыцця прадстаўніцтва ў Мінску “Філіп Морыс” пачала дабрачынную дзейнасць на Беларусі. Пра гэта расказвае Дзмітрый ХРОЛ, начальнік аддзела па карпаратыўных справах прадстаўніцтва кампаніі ў Рэспубліцы Беларусь.***






**— Фірма ваша вядомая на ўвесь свет. Цяпер яе чырвона-белыя візуальныя адзнакі ўпрыгожваюць і Віцебск, і Мінск. Але раскажыце, калі ласка, пра тое, што мы не бачым вачамі. Я маю на ўвазе акцыі, у якіх фірма з'яўляецца спонсарам культуры.**

— “Філіп Морыс” мае вельмі даўнія спонсарскія традыцыі. На Беларусі мы нядаўна, крыху больш за год. Рынак толькі наладжваецца, але мы зрабілі ўжо дзве акцыі: першая —праспансіравалі Дзень Мінска — там быў балет на вадзе, феерверк і шмат іншых нетрадыцыйных мерапрыемстваў. Мы падтрымліваем і такую буйную акцыю, як “Славянскі базар”. Пералічылі 9999 долараў ЗША для падрыхтоўкі Віцебска да фестывалю. Грошы патрапілі ў гарадское ўпраўленне культуры і, без сумнення, былі выкарыстаны на тое, каб зрабіць Віцебск маленькім Парыжам на час фэсту.

**— А як Вы трапілі на працу ў прадстаўніцтва “Філіп Морыс” на Беларусі?**

— Я — мінчанін, вучыўся на філалагічным факультэце БДУ. У мяне даўняя страсць да англійскай і амерыканскай літаратуры. Быў на стажыроўцы ў ЗША. Да “Філіп Морыс” працаваў у Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

**— Колькі словаў, калі ласка, наконт далейшых праграм, акцый, што тычацца культуры на Беларусі.**

— Усё залежыць ад клімата бізнесу ў краіне. Вядома ж, плануем набор дабрачынных акцый, але цяпер не хацелася б даваць нейкіх прагнозаў, бо ў гэтых накірунках мы робім толькі першыя крокі. А вялікая кампанія, як звычайна, вельмі дакладна прадумвае і вывярае спонсарскія праграмы, каб гэтыя грошы сапраўды пайшлі на добрую справу. Пакуль скажу толькі, што хацелася б праграму “Філіп Морыс-балет” праводзіць у Беларусі, дзе балет — адзін з лепшых у свеце. Ёсць праграма “Філіп Морыс-джаз”. Мы вядзем перамовы з Беларускай асацыяцыяй джаза і, магчыма, здзейснім шэраг нейкіх сумесных акцый па правядзенні канцэртаў. Але працэдура зацвярджэння спонсарскіх акцый кампаніі вельмі доўгая і складаная як з юрыдычнай, так і з бюракратычнай пазіцый. Таму мы ніколі на сто працэнтаў не акрэсліваем нашы намеры, пакуль яны не здзейсняцца.

## “ОЙ, МАНЯ...”

*Артур Дунаеў, карэспандэнт газеты “Брэсцкі кур'ер”:*

— Можа здарыцца такое, што праз два-тры гады ў Віцебск перастануць прыязджаць імянітыя “зоркі” з-за таго, што ім будуць з барскага пляча даваць толькі грошы. А яны падумаюць: прабачце, а адносіны да нас? На жаль, надта “грашовым” “базар” становіцца. Скажам, правы на тэлевізійную трансляцыю. Усе яны належаць пану Віннікаву, і каму ён хоча іх даць, таму і дае. Ясна адно: БТ не дастаецца бадай нічога...

У гэтым годзе пайшлі жахлівыя спрэчкі: Украіна хоча забраць фестываль сабе, Расія — сабе. Дык што мы за дзяржава, калі паўстае такое пытанне ўвогуле? Я браў інтэрв'ю ў Надзеі Бабкінай, дык яна здзіўлялася: пасля выступлення на Плошчы Свабоды, маўляў, яе групу віцябляне прымалі лепш, чым беларускіх артыстаў. А дэлегацыя Украіны? Якую авацыю яна закаціла сваёй Руслане Лыжэчка! У беларусаў няма гонару за сваю нацыю, я баюся, што і нацыі няма. На “Славянскім базары” гэта асабліва яскрава праявілася. Напаўпустыя залы, калі выходзілі на сцэну “Песняры”, “Сябры”, “Верасы”. Няхай гэта і “цукровыя” групы, але — наш нацыянальны гонар. Ну што тут казаць: на канцэрце “Беларусь запрашае” тыя ж украінскія тэлевізійшчыкі бегалі на сцэну, каб уручыць кветкі нашым артыстам, гучней за ўсіх падтрымлівалі іх апладысментамі. А віцябляне, здаецца, пашкадавалі эмоцый...

Вось яшчэ адна праблема. Напрыклад, канцэрт Андрэя Пятрова. Са сцэны выступае Святаслаў Бэлза — тонкі знаўца музыкі, цікавы суразмоўца. Вядома, ён гаварыў так, што, магчыма, непадрыхтаванаму слухачу не ўсё было зразумела. Але ж фестывалю ўжо пяць гадоў! Бяда ў тым, што за гэты час густ народа не імкнуліся выхоўваць, яго нават і не спрабавалі арыентаваць на адметныя канцэрты фестывалю. Прынцып ранейшы: “Ой, Маня, тут Газманаў! Пойдзем?..”. Вось і ўсё.

## ЗАМЕСТ ФЕЕРВЕРКУ

# "БАЗАР НА РОЗУМ НАВЯДЗЕ"

*Здаецца, мы расказалі пра ўсё, за што на віцебскім свяце "вока зачапілася". І нездарма быў намі абраны жанр газетнага інтэрв'ю, у якім найбольш незалежна праяўляецца яскравасць погляду суразмоўцаў. Няхай іншым разам — супрацьлеглых і ўзаемавыключальных меркаванняў "зорак" і тых,хто іх апякае. У гэтым іх адметнасць.*

Што і казаць, нездарма фестываль названы "базарам". На ім кожны хоча прадаць свой тавар даражэй, хоць ён, мабыць, столькі не каштуе, бо даўно — не вышэйшага гатунку. Але тут, пагадзіцеся, ужо многае залежыць ад пакупніка, ад яго густаў і схільнасцей, ад яго ўмення спажываць той або іншы "фрукт" ці "трускаўку" з гандлёвых радоў. А такое шматаблічнае камерцыяналізаванае прадпрыемства, як базар, толькі, мусіць, стоікаў не спакусіць на "развесистую клюкву". Ды ўрэшце, няўдзячная гэта справа — лічыць грошы ў чужой кішэні...

Так, пытанне гэта далёка не творчае. І рубам, як кажуць, слова "творчасць" на "Славянскім базары" не стаяла. Хіба толькі на вечары-справаздачы Людмілы Зыкінай з нагоды яе пяцідзесяцігадовай творчай дзейнасці, дзе быў зроблены своеасаблівы агляд-экскурс у гісторыю любімай песні. Ну дык гэта ж — гісторыя... А рэальнасць?

Што тычыцца творчых памкненняў Беларусі, дык яны былі на "Славянскім базары" нейкія неапраўдана сціплыя. Нават ілюзорныя. Дзякуй Богу, хоць адзін прэтэндэнт на самае галоўнае творчае мерапрыемства знайшоўся. Так, не памыляецеся — менавіта на конкурс маладых выканаўцаў. Ну і няхай сабе квота Беларусі не была выбрана, не знайшлі мы тут, на сваёй зямлі, такіх Руслан Лыжэчка, і ўсё! Ад базара да базара шукалі, хто б гэта мог гонар Бацькаўшчыны з яе песнямі і на яе мове адстойваць. Але не, не знайшлі... Ды што тут дэбютанты-канкурсанты! Прыярытэтную нібы магчымасць — раскруціць на ўсю моц сцэну роднага віцебскага амфітэатра — і тую не адолелі. Кажуць, "самоуничижение паче гордыни". Калі ж мы нарэшце гэта зразумеем? Можа, тады і рэкламных плакатаў з выявамі айчынных "зорак" паболее на "Славянскім базары", а пакуль надта сціплай кропелькай глядзяцца нешматлікія афішы са знаёмымі тварамі ў акіяне растыражаванай прадукцыі іншых дзяржаў.

Мне запярэчаць, маўляў, усё ўпіраецца ў грошы. Няўжо ж зноў спасылацца на прыклады з не такога яшчэ далёкага, па мерках гісторыі, мінулага: вайна, разбурэнне, гора, але творцаў падтрымлівалі на ўсю моц. Дарэчы, пра тэму гераізму на "Славянскім базары". Чамусьці з гераічнай спробай прарыву хочацца параўнаць мне канцэрт "Беларусь запрашае". Прарыву скрозь шчыльны "зоркапад" расійскай эстрады. Каб засведчыць: ёсць Беларусь!

...Адзвінеў-адсвісцеў славуты кірмаш. Але нашай выязной брыгадзе давялося пабываць далёка не на ўсіх "рандэву", "конкурсах прыгажунь", прэзентацыях "кветак" і "ягадак". І не таму, што не запрасілі. Хутчэй таму, што, шчыра прызнаемся, мы не здолелі "ахапіць неахопнае". Ды і большая частка нашых калег, мусіць, далёка не ўсё паглядзела, далёка не ўсё "пераварыла". Але, спадзяемся, Віцебск сустрэне яшчэ не адзін "Славянскі базар". Насуперак прагнозам песімістаў. Толькі трэба прыслухацца да старой народнай мудрасці: "базар на розум навядзе, розуму дасць"... Далібог, разумны на памылках вучыцца.



Мікалай ЯРОМЕНКА

Мікалай РАСТАРГУЕЎ



"Бярозка"

шэф прэс-цэнтра Міхась ШУЛЬМАН



Вісер КІРАЎ і Віктар ВУЯЧЫЧ

Павел ЯКУБОВІЧ



Зміцер ПАДБЯРЭЗСКІ і Оля УЛЕВІЧ

*Кошык нумара напаўнялі Людміла КРУШЫНСКАЯ і Генадзь ЖЫНКОЎ (фота)*

# МІЖ НАМІ, АРТЫСТАМІ, КАЖУЧЫ...

Не ведаю, хто як, а я вынес самыя адмоўныя ўражанні ад арганізацыі гэтага надзвычайнага свята, якім павінен быць фестываль мастацтваў "Славянскі базар". Я пакідаю Віцебск з вялікім засмучэннем. Прычын для гэтага болей чым дастаткова. Вось, да прыкладу, 14 ліпеня я раптам даведваюся аб тым, што ў Віцебску ў рамках "Славянскага базару" ідзе дабрачынны канцэрт для ветэранаў. Ды я, прабачце, болей, чым хтосьці, маю права ўдзельнічаць ў гэткім канцэрце, таму што столькі я спяваў песень для ветэранаў, колькі іншаму выканаўцы і не снілася. Дзякуй, вядома, арганізатарам, што ў мяне быў вольны дзень, але я ж не адлачываць сюды прыехаў! Ніхто мяне не запрасіў ні на дабрачынны канцэрт, ні на Дзень Беларусі. Можа быць, гэта толькі са мной адбываецца?



Так, прэзідэнт карпарацыі "Славянскі базар" Віннікаў не любіць Кабзона, я не люблю Віннікава. Але тады ўзнікае пытанне: навошта мяне наогул сюды запрасілі? Аказваецца, мяне запрасіла не дырэкцыя фэстывалю, а Людміла Зыкіна на сваё свята.

Я размаўляю з Вуячычам — ён мне распавядае, што яго ніхто не сустракаў у Віцебску. Я размаўляю з Рыбчынскім — яго ніхто ў Віцебску не размяркоўвае. Джорджэ Мар'янавіча хворага запрасілі на фестываль, ён прыехаў, і раптам выяўляецца, што нумара для яго няма. Калектыў "Прэм'ера", які забяспечвае афармленне амфітэатра, усе канцэртныя праграмы, пятнаццаць дзён жыве тут без грошай. Для выканаўцаў і калектываў, якія ўдзельнічаюць у фестывалі, няма ні культурнай праграмы, ні наогул чалавечага да іх стаўлення.

Мы, артысты, творчыя людзі, маем патрэбу перш за ўсё ў павазе і шанаванні. З намі можна рабіць усё, што заўгодна. Можна, напрыклад, усіх гастралёраў размясціць дзесьці ў спортзале, паслаць ім пехцяры, і яны будуць цудоўна спаць. Калі будуць ведаць, што іншай магчымасці няма. Але калі мы ведаем, што магчымасці гэткія ёсць і ўсё робіцца толькі ад непавагі да нас, дык абурэнню нашаму, вядома, няма мяжы.

*(З выступлення Іосіфа Кабзона перад журналістамі)*

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 819
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**